ПРАПАНОВУ ПРАВААБАРОНЦЫ СЯРГЕЯ ГОЎШЫ



ПАДТРЫМАЎ КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

СТАР. 2

веснік ПРАВАБАРОНЧЫ

№ 10 (18) 10.2013

АБ'ЯДНАННЕ БАРАНАВІЦКІХ УКРАІНЦАЎ "КАБЗАР"

І ПРАЗ СУД НЕ ДАБІЛАСЯ ПАМЯШКАННЯ ДЛЯ РЭГІСТРАЦЫІ АРГАНІЗАЦЫІ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# МІЛЕН ФАРМЭР ПАДПІСАЛА ПЕТЫЦЫЮ СУПРАЦЬ СМЯРОТНАЙ КАРЫ Ў БЕЛАРУСІ

У чацвер 24 кастрычніка, за тры дні да прыезду ў Мінск, дзе Мілен Фармэр прадставіць публіцы сваё новае шоў »Timeless», яна падпісала петыцыю кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі».

Вядомая французская спявачка не засталася абыякавай, атрымаўшы зварот Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і Праваабарончага цэнтра «Вясна», у якім праваабаронцы распавялі ёй пра сутнасць праблемы смяротнага пакарання ў Беларусі - апошняй краіне на еўрапейскай прасторы, дзе дагэтуль людзей пазбаўляюць жыцця ад імя дзяржавы.



Фота прадастаўлена Мілен Фармэр кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі»

«І не можа быць мэты больш высокай, больш святой, больш годнай за гэтую: пакончыць з пакараннем смерцю», - падпісаўшы петыцыю, Мілен Фармэр працытавала гэтыя радкі. Яны належаць французскаму пісьменніку Віктору Гюго, які ў прадмове да аповесці «Апошні дзень асуджанага» (1829) выступіў заўзятым праціўнікам смяротнага пакарання, запытваючыся, адкуль у аднаго чалавека з'яўляецца права пазбаўляць жыцця іншага, і сцвярджаючы, што яго роля - «роля заступніка за ўсіх магчымых падсудных, вінаватых або нявінных, перад усімі судамі і судзілішчамі, перад усімі прысяжнымі, перад усімі вяршыцелямі правасуддзя».

Петыцыя праваабаронцаў заклікае беларускія ўлады адмяніць смяротнае пакаранне ў краіне: «Сёння, калі ўсе краіны Еўропы і постсавецкай прасторы адмовіліся ад смяротнага пакарання, надышоў час і Беларусі далучыцца да гэтай цывілізаванай прасторы гуманізму, прасторы, вольнай ад забойства дзяржавай».

Актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі», якая праводзіцца ў краіне з 2009 года, прапануюць падпісаць петыцыю сусветна вядомым асобам - каб падкрэсліць значнасць самой праблемы і прыцягнуць увагу людзей ва ўсім свеце да смяротнага пакарання як да праблемы, якая не ведае нацыянальных межаў. У 2010 годзе петыцыю праваабаронцаў падпісаў вядомы брытанскі музыка Стынг, які выступіў з відэазваротам «Час змяніць гэта», а ў 2012 годзе кампанію падтрымала шведская спявачка Ларын, пераможца «Еўрабачання-2012».

spring96.org

ПАЛІТВЯЗНІ

# "ВЯСНА" ВІТАЕ ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА НА ВОЛІ!

У суботу 19 кастрычніка сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД) палітвязень Павел Севярынец вызвалены са спецкамендатуры № 7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці, дзе адбываў трохгадовае пакаранне за ўдзел у падзеях 19 снежня 2010 года.

Павел Севярынец, які падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў кіраваў выбарчым штабам кандыдата на пасаду кіраўніка дзяржавы ад БХД Віталя Рымашэўскага, адбываў трохгадовае пакаранне за ўдзел у падзеях 19 снежня 2010 года. Яго арыштавалі ў ноч на 20 снежня на выхадзе з плошчы Незалежнасці. Пяць месяцаў пасля арышту Севярынец правёў у следчым ізалятары КДБ.

Беларускія і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Паўла Севярынца палітычным зняволеным. Яго вызвалення патрабавалі Еўрасаюз і ЗША.

Паводле слоў палітыка, спадарожнікі, з якімі яму давялося ехаць у цягніку, пазналі яго, выказвалі сваю падтрымку і цікавіліся лёсам іншых асуджаных па справе 19 снежня 2010 года.

Павел Севярынец заявіў, што мае намер працягваць займацца грамадска-палітычнай дзейнасцю.

Паводле інфармацыі БелаПАН spring96.org

## Скарга на дзеянні Баранавіцкага міжраённага пракурора, які ўхіляецца ад выканання абавязкаў

Сябра "Руха "За свабоду" Віктар Сырыца накіраваў скаргу пракурору Брэсцкай вобласці на дзеянні Баранавіцкага міжраённага пракурора, які, на яго думку, ухіляецца ад выканання сваіх абавязкаў.

У скарзе паведамляецца, што пастановай суддзі суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы Кацярыны Груда ад 31.07.2013 г. ён прызнаны вінаватым у здзяйсненні правапарушэння, па арт. 23.34 КаАП РБ і аштрафаваны на 20 базавых велічынь.

Не пагадзіўшыся з рашэннем суда, В. Сырыца 09.08.2013 г. звярнуўся да Баранавіцкага міжраённага пракурора з заявай, у якой прасіў яго вынесці пратэст на судовую пастанову ад 31.07.2013 г.

– Лічу, што Баранавіцкі міжраённы пракурор ухіліўся ад выканання свайго абавязку.

Я прасіў яго вынесці пратэст, а не тлумачыць, куды і як я магу звярнуцца ў дадзеным выпадку. І калі, па меркаванню пракурора, падстаў для вынясення пратэсту не было, то менавіта аб гэтым трэба было і пісаць ў адказе на маю заяву. Але найперш трэба было запатрабаваць з суда справу. Не зрабіўшы гэтага пракурор якраз і ўхіліўся ад выканання свайго службовага абавязку, чым парушыў дзеючае заканадаўства, – адзначыў В. Сырыца.

Таму, зыходзячы з вышэйвыкладзенага і кіруючыся арт. 55 Закона "Аб пракуратуры Рэспублікі Беларусь" грамадскі актывіст просіць пракурора Брэсцкай вобласці прыцягнуць Баранавіцкага міжраённага пракурора да прадугледжанай заканадаўчымі актамі адказнасці.

Глеб Лушынскі

## Пікет супраць карупцыі мясцовых чыноўнікаў

У Баранавічах 30 верасня адбыўся пікет супраць карупцыі мясцовых чыноўнікаў. Арганізатарам выступіў грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус, які трымаў у руках плакат "Уральскіх жулікаў ловяць, а свае адпачываюць на Канарах".

Вось ужо шмат гадоў Мікалай Чарнавус змагаецца з мясцовымі чыноўнікамі, якія, на яго думку, займаюцца незаконнай фінансавай дзейнасцю.

– Пры падтрымцы мясцовых начальнікаў дырэктар фірмы "Ралет-мантаж" Аляксей Драздоўскі ўзяў з прадпрымальнікаў Баранавіцкага кааператыўнага рынку вялікія грошы за ўстаноўку ралетных боксаў. Грошы яны ў нас узялі, але сваю работу не выканалі. Я неаднаразова пісаў пра гэта ў гарвыканкам, аблвыканкам, пракуратуру, суд, інспекцыю Міністэрства па падатках і зборах. Але ўсе чыноўкі мне паведамляюць, што ў прадпрымальнікаў грошы проста пазычылі. А калі іх аддадуць ці выканаюць работу па дамоўленасці, то гэтага ніхто не ведае і не жадае адказаць, – паведаміў Мікалай Чарнавус.

На працягу доўгага часу грамадскі актывіст імкнецца дабіцца ў дзяржаўных структурах аб'ектыўнага разгляду гэтай справы, але безвынікова. Таму Мікалай Чарнавус і вырашыў арганізаваць пікет супраць карупцыі мясцовых чыноўнікаў, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да гэтай праблемы.

Пікет актывіста адбыўся ў старым парку горада з боку вуліцы Камсамольскай і доўжыўся каля гадзіны.

spring96.org

# ПРАКУРАТУРА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ ЯК ЗАЎСЁДЫ ПАДТРЫМАЛА СВАЙГО БАРАНАВІЦКАГА КАЛЕГУ

Сябра Руху "За свабоду" Віктар Сырыца атрымаў ліст за подпісам намесніка пракурора Брэсцкай вобласці А.Ц. Тачко, у якім паведамляецца, што парушэнняў заканадаўства пры разглядзе яго звароту ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру не было дапушчана. Таму падстаў для прыняцця мер дысцыплінарнага ўздзеяння да Баранавіцкага міжраённага пракурора не маецца.

Зварот Віктара Сырыцы быў звязаны з прызнаннем яго вінаватым у парушэнні парадку арганізацыі Мілавідскага фэсту, у сувязі з чым ён быў прыцягнуты судом Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 20 базавых велічынь. Не пагадзіўшыся з такім рашэннем суда, Віктар Сырыца звярнуўся да Баранавіцкага міжраённага пракурора з заявяю, у якой прасіў яго прынесці пратэст на судовую пастанову. Аднак пракурор нават не запатрабаваў з суда і не разглядзеў адміністрацыйную справу Віктара Сырыцы, а раіў актывісту чакаць рашэння абласнога суда, які, на думку Баранавіцкага міжраённага пракурора, аб'ектыўна



разбярэцца ў яго адміністрацыйнай справе.

У сувязі з гэтым, кіруючыся арт. 55 Закона "Аб пракуратуры Рэспублікі Беларусь", грамадскі актывіст прасіў пракурора Брэсцкай вобласці прыцягнуць Баранавіцкага міжраённага пракурора да прадугледжаннай заканадаўчымі актамі адказнасці за ўхіленне ад выканання сваіх абавязкаў.

Намеснік пракурора Брэсцкай вобласці А.Ц. Тачко паведаміў у сваім адказе, што справа Віктара Сырыцы аб адміністрацыйным правапарушэнні не магла быць запатрабавана з суда Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы і вывучана, паколькі грамадскі актывіст самастойна падаў скаргу ў Брэсцкі абласны суд на пастанову гарадскога суда. А паколькі распачалася стадыя адміністрацыйнага працэсу па абскарджанні пастановы суда, якая не ўступіла ў законную сілу, то, на думку абласнога пракурора, не трэба скардзіцца ў пракуратуру, а неабходна чакаць рашэння Брэсцкага абласнога суда, які кваліфікавана і аб'ектыўна разбярэцца ў адміністрацыйнай справе Віктара Сырыцы.

– Складаецца такая сітуацыя, што ўсе нашыя скаргі гарадскія і абласныя пракуроры ўсё часцей і часцей не разглядаюць па сутнасці, а перанакіроўваюць іх у іншыя дзяржаўныя ўстановы, чым ухіляюцца ад выканання сваіх службовых абавязкаў. А мы замест стваральнай працы ўцягваемся ў непатрэбную бюракратычную цяганіну, – адзначыў Віктар Сырыца.

Сяргей Вастраўскі

# КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД ПАДТРЫМАЎ ПРАПАНОВУ

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь падтрымаў прапанову баранавіцкага праваабаронцыСяргея Гоўшы. Гэта стала вядома з ліста за подпісам начальніка сакратарыяту - А.В. Каравай, які атрымаў грамадскі актывіст 8 кастрычніка па пошце.

У ім паведамляецца, што па прапанове Сяргея Гоўшы, 25 верасня Канстытуцыйны суд прыняў рашэнне "Аб ўстанаўленні працэсуальнага парадку вызвалення ад выплаты дзяржаўнай пошліны за падачу ў суд скаргаў на пастановы па справах аб адміністрацыйных правапарушэннях".

Яшчэ 1 сакавіка 2013 года праваабаронца Сяргей Гоўша накіраваў у Канстытуцыйны суд пісьмовы зварот. На падставе ўласнага вопыту ён прапанаваў КС прызнаць неадпаведнымі Канстытуцыі і міжнародным прававым нормам палажэнні Працэсульна-выканаўчага кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях у пытанні немагчымасці адмены дзяржпошліны.

У сваім лісце Сяргей Гоўша паведаміў КС, што пастановай суддзі Васіля Петрыва суда г. Баранавічы ад 21 жніўня 2012 г. ён быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. Не пагадзіўшыся з такім рашэннем суддзі, 30.08.2012г. праваабаронца накіраваў у суд скаргу і напісаў адначасова заяву аб вызваленні яго ад дзяржпошліны ў сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам.

Аднак пастановай суддзі Васіля Петрыва ад 13 верасня 2012 г. Сяргею Гоўшу было адмоўлена ў задавальненні хадайніцтва аб вызваленні яго ад уплаты дзяржаўнай пошліны ў сувязі з тым, што Працэсуальна-выканаўчым кодэксам РБ аб адміністрацыйных правапару-

ФЕМІДА

# “КАБЗАР” І ПРАЗ СУД НЕ ДАБІЎСЯ ПАМЯШКАННЯ ДЛЯ АБ’ЯДНАННЯ БАРАНАВІЦКІХ УКРАІНЦАЎ

У чацвер 24 кастрычніка ў судзе Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы адбыўся працяг разгляду скаргі Мікалая Чарнавуса на дзеянні гарвыканкама. Менавіта мясцовыя чыноўнікі, на думку грамадскага актывіста, адмаўляюцца прадставіць адно з вольных памяшканняў для грамадскага аб’яднання баранавіцкіх украінцаў “Кабзар”.

Судовае пасяджэнне вёў суддзя Мікалай Сельмановіч.Інтарэсы дзяржаўнага органа ў судзе прадстаўляў начальнік юрыдычнай службы гарвыканкама Алег Яўсееў. І праз суд Мікалай Чарнавус не змог дабіцца памяшкання для грамадскага аб’яднання баранавіцкіх украінцаў “Кабзар”. Суддзя Мікалай Сельмановіч не задаволіў яго скаргу і прызнаў, што гарвыканкам дзейнічаў у адпаведнасці з законам.

Мікалай Чарнавус даводзіў у судзе, што на афіцыйным сайце Баранавіцкага гарвыканкама размешчана інфармацыя аб вольных памяшканнях, таму ён неаднаразова звяртаўся да чыноўнікаў гарвы-




канкама і аблвыканкама, каб атрымаць памяшканне для ГА “Кабзар”. Але, безвынікова. Вось чаму Мікалай Чарнавус настойваў, каб суд абавязаў Баранавіцкі гарвыканкам выдзяліць адно з вольных памяшканняў для “Кабзара” з мэтаю рэгістрацыі ў абласным упраўленні юстыцыі.

Начальнік юрыдычнай службы гарвыканкама Алег Яўсееў паведаміў, што ГА “Кабзар” не ўваходзіць у спіс арганізацый, якія могуць прэтэндаваць на бясплатную ўласнасць. А калі Мікалай Чарнавус жадае набыць камунальную ўласнасць для сваёй арганізацыі, адзначыў адказнік у судзе, то трэба ўдзельнічаць ў аўкцыёне.

– Мне не дазволілі зарэгістраваць ГА “Кабзар” ва ўласным доме. Потым гарвыканкам нам даў памяшканне па вуліцы Савецкая, дом 60, але хуценька забраў назад, каб не дапусціць рэгістрацыі нашай арганізацыі ва ўпраўленні юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама. Ну, а калі цяпер нам дасць памяшканне які-небудзь індывідуальны прадпрымальнік, то да яго праз некалькі дзён “нечакана” прыйдзе падатковая інспекцыя з нечарговай праверкай. Думаю, што гарадскія ўлады ствараюць штучныя перашкоды, каб мець “законныя” падставы для нерэгістрацыі грамадскага аб’яднання баранавіцкіх украінцаў “Кабзар”, як і шматлікія іншыя недзяржаўныя беларускія культурна-асветніцкія арганізацыі, – адзначыў Мікалай Чарнавус.

Глеб Лушынскі

ІНІЦЫЯТЫВА

# БАРАНАВІЦКАГА ПРАВААБАРОНЦЫ

шэннях магчымасць вызвалення ад уплаты дзяржпошліны пры падачы скаргаў на пастановы суда не прадугледжана.

Такім чынам, праваабаронца Сяргей Гоўша звярнуў увагу КС на тое, што ў дзеючым адміністрацыйна-працэсуальным заканадаўстве ёсць прабелы, якія парушаюць канстытуцыйнае права грамадзян на судовую абарону. Пры гэтым Сяргей Гоўша зыходзіў з таго, што права на судовую абарону гарантавана арт. 60 Канстытуцыі РБ. А ў арт. 2 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах замацаваны абавязак кожнай дзяржавы-удзельніцы Пакту забяспечыць кожнай асобе, правы і свабоды каторай парушаны, эфектыўны сродак прававой абароны.

Сяргей Гоўша нагадаў КС, што зыходзячы з вышэй прыведзеных палажэнняў Канстытуцыі і ратыфікаванага РБ Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, дзяржава павінна ствараць такія сродкі прававой абароны, якія б гарантавалі эфектыўную абарону парушаных правоў і свабод асобы.

Таму Сяргей Гоўша прасіў КС ўнесці ў Палату прадстаўнікоў РБ прапанову аб дапаўненні Працэсуальна-выканаўчага кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях з тым, каб дзейным чынам забяспечыць гарантыі судовай абароны правоў і свабод асобы.

25 верасня КС РБ прыняў рашэнне прапанаваць Савету Міністраў РБ падрыхтаваць праект закона аб унясенні адпаведных зменаў у Працэсуальна-выканаўчы кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях і ўнясенні яго ў вызначаным парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу РБ.

spring96.org

## Міліцыя правялаператрус у кватэры грамадскага актывіста Мікалая Чарнавуса



Супрцоўнікі Баранавіцкага ГАУС 10 кастрычніка а 18-й гадзіне вечара правяліператрус у кватэры Мікалая Чарнавуса.

У першай палове дня грамадскі актывіст быў выкліканы ў міліцыю для размовы па праведзенаму 30 верасня ў Баранавічах пікету супраць карупцыі мясцовых чыноўнікаў. Гутарку без складання адміністрацыйнага пратакола з грамадскім актывістам вёў намеснік начальніка аддзела грамадскай бяспекі і прафілактыкі правапарушэнняў ГАУС маёр міліцыі Павел Кульгавік.

У гэты ж дзень міліцыянты з панятымі нечакана з’явіліся ва ўласным доме Мікалая Чарнавуса. Па словах індывідуальнага прадпрымальніка, ордэр наператрус у яго доме падпісаў баранавіцкі пракурор А.А. Більдзейка.

– У якасці доказу арганізацыі і правядзення 30 верасня ў Баранавічах пікету ў старым парку горада супраць карупцыі мясцовых чыноўнікаў, міліцыянеры вынялі плакат “Уральскіх жулікаў ловяць, а свае адпачываюць на Канарах”, гумовыя боты і ватоўку, – паведаміў Мікалай Чарнавус.

На фота Мікалай Чарнавус размаўляе з маёрам міліцыі Паўлам Кульгавікам падчас страйка баранавіцкіх прадпрымальнікаў 1 ліпеня.

spring96.org

## Мікалай Чарнавус не адмовіўся ад правядзення дабрачынных абедаў



Баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус 11 кастрычніка арганізаваў на мясцовым кааператыўным рынку (вуліца Чарнышэўскага, 11) дабрачынны абед. Мінакі і прадпрымальнікі з задавальненнем частаваліся гарачай пярлоўкай з мясам і грыбамі.

Гэтая дабрачынная акцыя адбылася пасляператрусу, які 10 кастрычніка правялі супрацоўнікі гарадской міліцыі ва ўласным доме грамадскага актывіста. Міліцыянеры шукалі рэчавые доказы арганізацыі і правядзення 30 верасня ў Баранавічах пікету ў старым парку горада супраць карупцыі мясцовых чыноўнікаў.

За папярэдні дабрачынны абед у 2012 годзе ля свайго працоўнага месца на Цэнтральным кааператыўным рынку на Мікалая Чарнавуса быў складзены адміністрацыйны пратакол па артыкуле 23.34 ч. 2 КаАП – "арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства". А 19 лістапада 2012 года суддзя суда горада Баранавічы і Баранавіцкага раёна Аксана Сарахман пакарала грамадскага актывіста адміністрацыйным штрафам у памеры 3 мільёны рублёў.

Ці будзе штраф за гэты дабрачынны абед пакажуць бліжэйшыя дні.

Вітусь Свабодскі

ПРЭМІЯ

## ПАРАНЕНАЯ ТАЛІБАМІ ПАКІСТАНСКАЯ ДЗЯЎЧЫНКА АТРЫМАЛА ПРЭМІЮ САХАРАВА



Малала Юсуфзаі, лаўрэатка прэміі Сахарава за 2013 год. Фота: Adrees Latif/Reuters

Параненая талібамі 16-гадовая пакістанская праваабаронца Малала Юсуфзаі атрымала прэмію Сахарава за 2013 год . Пра гэта піша Lenta.ru са спасылкай на Agence France-Presse.

«Мы вырашылі даць свету зразумець, што наша надзея на лепшую будучыню абапіраецца на маладых людзей, такіх як Малала Юсуфзаі», - заявіў старшыня Еўрапейскай народнай партыі ў Еўрапарламенце.

Раней юная праваабаронца была ўганараваная званнем «Гуманіст года» па версіі Гарвардскага універсітэта, а таксама прэміяй імя Ганны Паліткоўскай.

Юсуфзаі на працягу пяці гадоў вяла блог для «Бі-Бі-Сі», у якім распавядала пра жыццё свайго роднага рэгіёну Сват, які з 2007 па 2009 год знаходзіўся пад уладай талібаў. У дзённіку дзяўчынка апісвала ўчыненыя баевікамі злачынствы, у прыватнасці, парушэнне правоў жанчын.

У кастрычніку 2012 года талібы спынілі школьны аўтобус, у якім ехала Юсуфзаі, і адкрылі па дзецях стральбу, у выніку чаго дзяўчынка-блогер была параненая ў шыю і галаву. Спачатку школьніца была змешчаная ў бальніцу ў Пакістане, але затым яе перавезлі ў Вялікабрытанію, дзе зрабілі шэраг аперацый, адна з якіх дазволіла вярнуць дзяўчынцы слых.

Летам 2013 года адзін з лідэраў «Талібану» Аднан Рашыд напісаў Юсуфзаі ліст, у якім распавёў, што быў шакаваны нападам на яе і «хацеў бы, каб гэтага ніколі не здарылася» . Пры гэтым Рашыд не стаў рэзка асуджаць дзеянні баевікоў, заявіўшы, што іх акцыя была адказам на «паклёпніцкую кампанію», разгорнутую Юсуфзаі супраць руху «Талібан» .

Прэмія імя А. Сахарава штогод уручаецца Еўрапарламентам за дасягненні ў галіне абароны правоў і асноўных свабод чалавека, развіцця дэмакратыі і адстойвання вяршэнства закона, павагу да міжнароднага заканадаўства і абароны правоў меншасцяў. Упершыню яна была ўручана ў 1988 годзе. У 2012-м прэмію атрымала іранскі адвакат Насрын Сатудзех, якая з 2010 года знаходзілася ў турме па абвінавачваннях у дзейнасці, што падрывае бяспеку дзяржавы, а таксама прапагандзе, нацэленай супраць дзеючага рэжыму. Неўзабаве пасля прысуджэння прэміі яна была вызваленая.

spring96.org



## Памёр Віктар Івашкевіч

СПАЧУВАННЕ

Віктар Івашкевіч нарадзіўся 21 верасня 1959 годзе ў Мінску.

Удзельнік «Майстроўні», «Талакі», Беларускага народнага фронту.

Быў арганізатарам страйкамаў на мінскіх прадпрыемствах у 1991 годзе. Шмат разоў падпадаў пад адміністрацыйныя пакаранні і арышты.

Працаваў рэдактарам газэты «Рабочы». У кастрычніку 2002 году быў асуджаны на два гады абмежавання волі за публікацыю артыкула «Злодзей павінен сядзець у турме», у якім пракуратура ўбачыла паклёп на прэзідэнта.

Намеснік старшыні Партыі БНФ да 2009 году. Да лютага 2011 году быў кіраўніком мінскай гарадской арганізацыі БНФ.

Апошні час палітык цяжка хварэў, яму было 55 год.

*Праваабарончы цэнтр «Вясна» выказвае спачуванні сваякам і блізкім Віктара Івашкевіча.*

spring96.org

**"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

ВЕСНІК ПРАВААБАРОНЧЫ